ГРОДНА
№6 (581),
20 сакавіка 2022

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ
ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Богу была неабходна Марыя і неабходны мы




*"Не бойся, Марыя, бо знайшла Ты ласку ў Пана. Вось зачнеш ва ўлонні сваім і народзіш Сына, і дасі Яму імя Езус" (Лк 1, 30–31).*

на старонцы 2

## У гродзенскай семінарыі арцыбіскуп Станеўскі ўстанавіў новых лектараў




*Прыняцце паслугі лектарату – чарговы крок на шляху да Хрыстовага святарства.*

на старонцы 4

## "Усе стэрэатыпы базуюцца на недахопе ведаў". Размова з настаўніцай МРП



*Што трэба ведаць маладым людзям пра свой арганізм?*

на старонцы 6

# АБ СУПАКОІ




**"Кожная вайна пакідае наш свет у горшым стане, чым яго застала. Вайна – гэта правал палітыкі і чалавецтва, ганебная капітуляцыя, горкая параза перад сіламі зла"** *(з энцыклікі Святога Айца Францішка "Fratelli tutti", 261).*

**"Ora Et Labora" –** раіў св. Бенедыкт. Гэта значыць **"Маліся і працуй".** Затрымліваючыся пры першым пункце, варта ўзгадаць, што малітва заўсёды дадавала людзям унутраныя сілы і натхняла да дзеяння.

Асаблівай падтрымкай малітва была і з'яўляецца ў складаныя моманты жыцця. "Як трывога, то да Бога". І слушна, бо да каго ж яшчэ? Да таго ж перад абліччам зла, якое знясмельвае, менавіта шчыры пацер можа пракласці дарогу ў нашы сэрцы і розумы для надзеі, веры і любові. Таксама аб малітве чытаем у Святым Пісанні, між іншым, што ёсць злыя духі, якія выганяюцца "не іначай, як толькі малітвай і постам" (Мц 17, 21).

Варта дадаць, што моц малітвы мы можам адчуваць нават фізічна, але можа быць і так, што яе "эфектыўнасць" будзе нябачная для нас. Як, дарэчы, і шэраг рэчаў, з'яў, праўд, звязаных з духоўнай сферай. У гэты кантэкст прыходзіць вера, якая матывуе працягваць малітву.

Яшчэ напярэдадні трагічнага 24 лютага папа Францішак заклікаў усіх людзей добрай волі да малітвы ў інтэнцыі супакою ў свеце. Сам Святы Айцец 25 лютага наведаў расійскае пасольства ў Рыме і правёў там паўгадзіны. На наступны дзень ён выказаў свой боль у тэлефоннай размове асабіста Уладзіміру Зяленскаму, прэзідэнту Украіны.

Аб актуальнай сітуацыі ў нашым рэгіёне і важнасці салідарнай малітвы выказаліся таксама прадстаўнікі беларускага Касцёла. Прапануем Вам пазнаёміцца з фрагментамі выказванняў Святога Айца і шэрагу іерархаў Беларусі.

на старонцы 3

СЛОВА РЭДАКТАРА

## *Дарагія Чытачы!*

*Малітва аб міры ва ўсім свеце – заўсёды актуальны заклік, які мы павінны рэалізаваць кожны дзень. Здаецца, цяпер гэтая малітва неабходна ўсёй Еўропе, асабліва Украіне, у якой, як нядаўна сказаў папа Францішак, "цякуць рэкі крыві і слёз".*

*Кожная вайна – трагедыя для чалавецтва, у ёй гінуць тысячы людзей, а многія, з абодвух бакоў, застаюцца знявечанымі. Мы забываем, што ўсе нашы славянскія народы павінны мець шмат агульнага і схіляцца не да нянавісці, а да ўзаемапавагі і сяброўства.*

*У гэтыя цяжкія хвіліны даверым справы міру ў свеце і саміх сябе Божаму Провіду і абароне Маці Божай Міласэрнасці. Няхай нашы малітвы будуць крыкам, каб прадухіліць пакуты і смерць тысяч нявінных людзей, асабліва самых слабых, безабаронных, якія не знаходзяць у сабе сіл і магчымасці выратавацца ад пажару вайны.*

*"Давайце маліцца аб міры малітвай Ойча наш: гэта малітва дзяцей, якія звяртаюцца да аднаго Айца, гэта малітва, якая робіць нас братамі, гэта малітва братоў, якія просяць прымірэння і згоды" (Папа Францішак, агульная аўдыенцыя 26 студзеня 2022).*



*ks. Jerzy Martinowicz*

КАЛЯНДАР

**20 сакавіка**
***III Нядзеля Вялікага посту.***

*Літургічная малітва на гэты дзень нагадвае нам, што сам Бог указаў як лякарства ад граху пост, малітву і міласціну. Гэтыя тры вялікапосныя сродкі навяртання дапамагаюць нам пакорна стаць у праўдзе і прызнаць свае правіны. Св. Леў Вялікі сцвярджаў, што лішнім быў бы высілак голаду без адмаўлення ад сваёй заганнай волі. Сапраўды хрысціянскі пост павінен весці да Бога, які хоча падняць з граху ласкай міласэрнасці.*

**25 сакавіка**
***Урачыстасць Звеставання Пана.***

*Ва ўрачыстасць Звеставання Пана Касцёл перажывае Дзень святасці жыцця. У гэты дзень мы асаблівым чынам глядзім не толькі на ўласнае жыццё, якое з'яўляецца вялікім дарам Творцы. Таксама ёсць добрая магчымасць паклапаціцца пра жыццё найбольш уразлівых, зачатых, але яшчэ ненароджаных, якія знаходзяцца пад пагрозай гібелі. У намеры дзіцяці, якому пагражае забойства ва ўлонні маці, мы можам здзейсніць духоўнае ўсынаўленне.*

**26 сакавіка**
***Успамін св. Добрага Злачынцы.***

*Святы Дысмас – адзін з двух злачынцаў, павешаных на крыжы побач з Езусам. Укрыжаваны разам са Збаўцам, паверыў у Яго, навярнуўся і атрымаў прабачэнне ды абяцанне Раю. Крыж, які для язычнікаў быў ганьбай, прынёс яму выратаванне. Добры Злачынец з'яўляецца сімвалам Божай міласэрнасці. Яго прыклад паказвае, што нават у апошнюю хвіліну жыцця яшчэ магчыма вярнуцца да Бога. З'яўляецца заступнікам злодзеяў, якія раскаяліся, вязняў, паміраючых, асуджаных на смерць, а таксама заступнікам добрай смерці, турэмных капеланаў, грэшнікаў, якія каяцца і навяртаюцца.*

**27 сакавіка**
***IV Нядзеля Вялікага посту.***

*Літургія слова на гэты дзень нагадвае, што нават калі наша слабасць аказваецца большай за нашу веру, Езус не пагарджае намі, але хоча даць сваю руку і выратаваць нас. Калі толькі пастараемся быць побач з Ім. Гэта спазнаў блудны сын. Спазналі многія святыя грэшнікі, якія, паўстаўшы са сваіх падзенняў, знайшлі ў Богу сэнс жыцця. Вялікі пост павінен весці нас да таго, каб усё паўней адкрываць праўду пра любоў Бога да кожнага грэшніка.*

# БОГУ БЫЛА НЕАБХОДНА МАРЫЯ І НЕАБХОДНЫ МЫ

*працяг са с. 1*

**Дзень Звеставання не быў нейкім выпадковым днём. Магчыма, Марыя, тады яшчэ зусім маладая дзяўчына, здзівілася, што стане мамай, але Божыя планы перавышаюць чалавечыя.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

Святы Павел гаворыць пра прыйсце Езуса ў свет як пра поўню часу. Бог доўга чакаў зручнага моманту, каб паслаць арханёла Габрыэля да Марыі. Яе заслуга ў тым, што на такую шакіруючую навіну адказала "так" – "няхай будзе паводле Твайго слова, няхай будзе воля Твая, Божа". Дзякуючы гэтаму адказу Езус змог зачацца і прыйсці ў свет.

Дзень Звеставання паказвае нам прыгожую рэчаіснасць нашай веры – Езус, Сын Божы, становіцца прысутным і бачным на зямлі дзякуючы таму, што Марыя выражае згоду на гэта. Яе адказ паказвае нам важнае вымярэнне перажывання веры. Гэта чалавечае рашэнне, свабодны адказ на Божую прапанову. Бог – той, хто выходзіць з ініцыятывай, але чалавек вольны выбіраць і прымаць Божую прысутнасць у сваім жыцці. Марыя, хоць і не да канца разумела, што азначаюць словы, сказаныя анёлам, даверылася і адгукнулася на запрашэнне. Гэта было Яе асабістае рашэнне веры.




**Урачыстасць Звеставання Пана нагадвае нам пра момант, калі Езус – наш Збаўца – пачынае сваё жыццё пад сэрцам Марыі.**

Св. Ян Павел II у адной са сваіх гамілій згадаў крыж, які знаходзіўся ў семінарыі ў Кракаве, калі ён быў кардыналам. На тым крыжы была фігура Езуса Хрыста, але дзіўная фігура – без рук. Семінарысты цікавіліся, чаму Езус прадстаўлены такім чынам. Ксёндз прэфект адказаў тады маладым людзям, што гэты крыж і Езус без рук павінны нагадаць усім, хто будзе глядзець на яго, што Збаўцу патрэбны рукі чалавека, каб ратаваць свет.

Богу патрэбна была Марыя, каб Езус мог адкупіць нас. Гэтак жа Богу патрэбны рукі і жыццё кожнага чалавека, кожнага з нас, каб тут, на зямлі можна было заўважыць Яго прысутнасць. Таму гэтая ўрачыстасць з'яўляецца для нас асаблівым запрашэннем аддаць Усемагутнаму ў распараджэнне свае рукі, свой час, свой розум, каб людзі, якія шукаюць Бога або жывуць так, як быццам Яго не існуе, змаглі адчуць Божую прысутнасць.

Гэтая ўрачыстасць паказвае нам яшчэ адну важную ісціну. Распазнанне прысутнасці Бога ў нашым жыцці не з'яўляецца справай адной хвіліны. Ён дзейнічае пастаянна і тонка выяўляе сваю прысутнасць. Мы часта думаем, што Бог маўчыць, таму што нашы ўзнесеныя ў малітве просьбы, нават самыя шчырыя і гарачыя, застаюцца нявыслуханымі.

Спосаб дзеяння Бога прадугледжвае час падрыхтоўкі. Перш чым мы зможам у поўнай меры ўбачыць Яго прысутнасць, Ён рыхтуе акалічнасці і прастору, каб аб'явіцца. Таму не варта адчайвацца ў малітве і сумнявацца, калі мы не можам адразу заўважыць Божую прысутнасць у нашым жыцці, або не да канца разумеем Божыя планы адносна нас і нашых блізкіх.

Марыя не малілася аб тым, каб стаць Маці Езуса. Яна проста малілася,

**Урачыстасць Звеставання Пана адзначаем 25 сакавіка.**

жыла ў глыбокай блізкасці з Богам. Падчас малітвы Ёй з'явіўся анёл. Не Яна выбрала месца і час, а Бог. На працягу свайго жыцця Марыя паступова адкрывала, кім з'яўляецца Яе Сын: у дзень Звеставання, калі Езусу было дванаццаць гадоў і Ён згубіўся ў храме; калі ва ўзросце трыццаці гадоў Ён пакінуў родны дом і пачаў навучаць; калі Яна кленчыла з разарваным сэрцам пад крыжам; калі ўбачыла Яго ўваскрослым. Гэтае адкрыццё адбывалася на працягу ўсяго жыцця Марыі. А пачатак быў нібы нябачны – у дзень Звеставання.

Тое ж самае і ў нашым жыцці. Бог становіцца бачным для нас на працягу ўсяго зямнога жыцця. Можам заўважыць Яго прысутнасць у розных падзеях і сітуацыях. Давайце прасіць аб умацаванні нашай веры, каб мы маглі ўсвядоміць прысутнасць Бога ва ўласным жыцці, як гэта зрабіла Марыя ў дзень свайго Звеставання.

# АБ СУПАКОІ



Украінская ікона Багародзіцы Адзігітры з калекцыі Ватыканскіх музеяў

працяг са с. 1

**Апрацавала Кацярына Паўлоўская**

### "БО ДЗЕ ДВОЕ ЦІ ТРОЕ САБРАЛІСЯ Ў ІМЯ МАЁ, ТАМ Я ЁСЦЬ СЯРОД ІХ" (МЦ 18, 20)

***"Я адчуваю вялікі боль у сваім сэрцы з прычыны пагаршэння сітуацыі ва Украіне. Нягледзячы на дыпламатычныя намаганні мінулых тыдняў, адкрываюцца ўсё больш і больш трывожныя сцэнарыі. Як і я, многія людзі ва ўсім свеце адчуваюць трывогу і заклапочанасць. Міру ўсіх пагражаюць прыватныя інтарэсы.***

***[…] Езус вучыў, што на д'ябальскую бессэнсоўнасць гвалту адказвае Божая зброя: пост і малітва. Няхай Валадарка Міру выратуе свет ад вар'яцтва вайны"*** *(Папа Францішак падчас агульнай аўдыенцыі, 23 лютага 2022 года).*



Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў Беларусі падчас сустрэчы з Папам у 2018 г.

***"Дарагія браты і сёстры! Ва Украіне цякуць рэкі крыві і слёз. Гэта не проста ваенная аперацыя, а вайна, якая сее смерць, разбурэнне і беднасць. Ахвяр становіцца ўсё больш, як і людзей, якія ўцякаюць, асабліва маці і дзяцей. У гэтай шматпакутнай краіне кожную гадзіну драматычным чынам узрастае патрэба ў гуманітарнай дапамозе.***

***Скіроўваю мой настойлівы заклік, каб былі па-сапраўднаму забяспечаны гуманітарныя калідоры і быў гарантаваны і спрошчаны доступ да дапамогі на абложаных тэрыторыях, каб аказваць жыццёва неабходную падтрымку нашым братам і сёстрам, прыгнечаным бомбамі і страхам.***

***Дзякую ўсім, хто прымае бежанцаў. Асаблівым чынам прашу, каб спыніўся ўзброены наступ ды ўзялі верх перамовы і здаровы розум. А таксама каб зноў паважалася міжнароднае права! Я хацеў бы падзякаваць таксама журналістам, якія рызыкуюць жыццём дзеля таго, каб забяспечваць інфармацыяй: дзякуй, браты і сёстры, за гэтае ваша служэнне – служэнне, якое дазваляе нам быць блізкімі да трагедыі гэтага народа і дазваляе ацаніць бесчалавечнасць вайны. Дзякую, браты і сёстры!"*** *(Папа Францішак падчас нядзельнай малітвы "Анёл Панскі", 6 сакавіка 2022 года).*

***"Важна не падсілкоўваць гнеў, які шкодзіць душы асобы і душы нашага народу, і не захапляцца нездаровай прагай знішчэння іншага, раскручваючы спіраль помсты. Ніхто не дасягае ўнутранага спакою і не вяртаецца да нармальнага жыцця такім чынам. Праўда ў тым, што ні адна сям'я, ні адна група суседзяў, ні адна этнічная група, а тым больш краіна не мае будучыні, калі сілай, якая іх аб'ядноўвае, трымае разам і лагодзіць іх адрозненні, з'яўляецца помста і нянавісць. Мы не можам дамовіцца і з'яднацца дзеля таго, каб адпомсціць […], каб планаваць магчымасць адплаты пад эгідай закона. Такім спосабам нічога не ўдаецца дасягнуць, а ў доўгатэрміновай перспектыве будзе страчана ўсё"*** *(Папа Францішак, з энцыклікі "Fratelli Tutti", 242).*

### "УСЕ ЯНЫ АДНАДУШНА ТРЫВАЛІ Ў МАЛІТВЕ" (ДЗ 1, 14)

***"Брат узняў руку на брата. Пачаў здзяйсняцца найгоршы сцэнарый развязкі той напружанасці, якая ўжо доўгі час існавала паміж братнімі народамі. Так блізка, побач з намі, паміж Расіяй і Украінай, сярод блізкіх нам людзей пачалася вайна.***

***Гэтая сітуацыя не можа не адгукнуцца болем і ў нашых сэрцах. І калі заклік спыніць пачатую бязглуздасць ужо, напэўна, не будзе дзейсным, застаецца малітва.***

***[…] Хрыстос кажа нам: «Усё магчыма для таго, хто верыць». Дапамажы, Божа, нашаму бязвер'ю*** *(параўн. Мк 9, 23–24).* ***Таксама заахвочваю да посту і ахвяравання цярпенняў і пакут у гэтай інтэнцыі"*** *(Старшыня ККББ біскуп Алег Буткевіч, з паведамлення ў сувязі з ваенным канфліктам ва Украіне, 24 лютага 2022 года).*

***"Мы з'яўляемся сведкамі ваенных дзеянняў, разбурэння гарадоў і населеных пунктаў, знішчэння інфраструктуры, гібелі людзей, праліцця крыві, вымушанага пакідання месца свайго жыхарства мірнымі людзьмі, сярод якіх шмат старых, нямоглых і дзяцей.***

***Ці можна было ўявіць сабе такое яшчэ зусім нядаўна? Але гэта жахлівая рэальнасць нашага часу. Таму мы справядліва задаёмся пытаннем, як такое магчыма ў XXI стагоддзі ў цэнтры Еўропы? Сярод шматлікіх прычын гэтага канфлікту найперш трэба шукаць маральныя. На жаль, мы як хрысціянскія народы, якія павінны кіравацца прынцыпам любові да бліжняга, як самога сябе*** *(параўн. Мц 22, 39),* ***забыліся аб ім. А гэта грэх, які вядзе да падзелаў і ўзброеных супрацьстаянняў".***

***"Хрысціянскія і славянскія народы паднялі руку адзін на аднаго, як Каін падняў руку на Авеля. У імя чаго? Чаму ў цэнтры Еўропы сёння ідзе вайна? Ці ўрокі мінулага нас нічаму так і не навучылі?***

***[…] Папа Францішак наведаў пасольства Расіі пры Святым Пасадзе, каб асабіста спрыяць міру. Усё гэта гаворыць пра сур'ёзнасць сітуацыі. Нельга чакаць, бо сёння яшчэ дзверы для дыялогу адчынены, але невядома, ці застануцца такімі да заўтра.***

***Трэба памятаць, што мір – гэта не толькі і не столькі маўчанне гармат: ён распачынаецца ў нашых сэрцах. Менавіта ў чалавечым сэрцы бяруць пачатак злыя і добрыя планы"*** *(Арцыбіскуп-эмерыт Тадэвуш Кандрусевіч, з пропаведзі на св. Імшы ў інтэнцыі міру ва Украіне, а таксама з пастырскага слова іерарха на Вялікі пост, 27 лютага 2022 года).*

***"Мы суперажываем нашай паўднёвай суседцы Украіне, якая перажывае трагедыю. Падтрымліваем заклікі Святога Айца Францішка і Апостальскага Пасаду, дыпламатычныя захады і перамовы Расіі і Украіны на беларускай зямлі з мэтай неадкладнага спынення ваенных дзеянняў і пошуку шляхоў да прымірэння; але для таго, каб бакі маглі пачуць адзін аднаго, неабходна, каб змоўкла зброя.***

***Таксама мы занепакоены інфармацыйнай вайной, якая наносіць не меншую шкоду і правакуе нянавісць паміж людзьмі і народамі.***

***Сёння, калі вырашаецца будучыня не толькі Украіны, неабходна зрабіць усё магчымае, каб знайсці мірнае вырашэнне канфлікту.***

***Заклікаем вернікаў і ўсіх людзей добрай волі:***

***- да посту і салідарнай малітвы ў касцёлах нашай краіны ў інтэнцыі міру ва Украіне, карыстаючыся магчымасцю адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту, спеву суплікацыі "Святы Божа", Ружанцовай малітвы, Крыжовага шляху і іншых набажэнстваў;***

***- з братэрскай любоўю і салідарнасцю аказваць пасільную дапамогу пацярпелым.***

***Мы молімся і просім, каб тыя, ад каго гэта залежыць, не дапусцілі, каб наша краіна прымала ўдзел у гэтай вайне"*** *(Са звароту Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі, 3 сакавіка 2022 года).*

---

**АКТУАЛЬНА**

*Ватыканскае радыё*

## Папа кананізуе працаўніка прапаганды і мучаніка за праўду

15 мая 2022 года на плошчы св. Пятра ў Ватыкане папа Францішак кананізуе дзесяць блаславёных. Сярод іх айцец Ціт Брандсма – галандскі кармэліт, прафесар, пісьменнік і журналіст.

Працэс беатыфікацыі айца Брандсмы распачаўся ў 1952 годзе і стаў першым працэсам, які тычыўся мучаніка нацыянал-сацыялізма. З лістапада 1985 года папа Ян Павел ІІ абвясціў галандскага кармэліта блаславёным. У лістападзе 2021 года быў прызнаны цуд аздараўлення ад анкалагічнага захворвання, які адбыўся праз заступніцтва айца Ціта, а падчас Звычайнага публічнага кансісторыя 4 сакавіка 2022 года было прынята рашэнне аб яго кананізацыі.

## Святы Айцец наведае дзве афрыканскія краіны

Прымаючы запрашэнне адпаведных кіраўнікоў дзяржаў і біскупаў, папа Францішак з 2 па 5 ліпеня 2022 года здзейсніць Апостальскае падарожжа ў Дэмакратычную Рэспубліку Конга, дзе наведае гарады Кіншаса і Гома, а з 5 па 7 ліпеня – у Паўднёвы Судан, дзе накіруецца ў Джубу. Праграма падарожжа будзе апублікавана ў свой час.

Францішак здзейсніць візіт на афрыканскі кантынент у пяты раз. Падчас чатырох мінулых падарожжаў ён наведаў Кенію, Уганду, Цэнтральнаафрыканскую Рэспубліку, Егіпет, Марока, Мазамбік, Мадагаскар і Маўрыкій.

## Пантыфік звярнуўся да моладзі, якая рыхтуецца да СДМ 2023

Звяртаючыся да маладзёнаў, папа Францішак заахвоціў да творчага пошуку шляхоў пераадолення крызісу.

"Мы рухаемся ад крызісу да крызісу", – заўважыў Папа ў адмысловым відэазвароце да моладзі, якая рыхтуецца да Сусветных дзён моладзі ў Лісабоне. Яны пройдуць у пачатку жніўня 2023 года.

"Мы выйшлі з пандэмічнага крызісу і ўвайшлі ў крызіс эканамічны, а цяпер знаходзімся ў эпіцэнтры ваеннага крызісу – самай горшай з усіх катастроф, што могуць здарыцца!" – заявіў Святы Айцец, спасылаючыся на цяжкі для чалавецтва гістарычны перыяд.

Дзелячыся з маладзёнамі сваім меркаваннем аб тым, якой мусіць быць падрыхтоўка да СДМ, Францішак заклікаў, каб яны былі "свежымі" і "творчымі". Лісабонская сустрэча, як адзначыў Папа, не павінна застацца ў цені папярэдніх.

## Малітоўныя інтэнцыі на красавік

### паўсюдная

Молімся, каб урады і мясцовыя супольнасці падтрымлівалі ўдзел медыцынскіх работнікаў у доглядзе за хворымі і пажылымі людзьмі, асабліва ў самых бедных краінах.

### дыяцэзіяльная

Молімся аб жывой веры для дзяцей і моладзі, якія рыхтуюцца да прыняцця святых сакраментаў, а таксама для іх сем'яў.

# У ГРОДЗЕНСКАЙ СЕМІНАРЫІ АРЦЫБІСКУП СТАНЕЎСКІ ЎСТАНАВІЎ НОВЫХ ЛЕКТАРАЎ




Арцыбіскуп Юзаф Станеўскі з новымі лектарамі

працяг са с. 1

**У I Нядзелю Вялікага посту Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі ўдзяліў сямі студэнтам Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне паслугу лектарату.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

Да святарскага служэння семінарысты рыхтуюцца паступова – адбываецца ўскладанне сутаны, удзяленне паслугі лектарату, акалітату, абрад прыняцця ў кандыдаты да пасвячэння ў дыяканы і прэзбітэры, пасвячэнне дыяканату і, нарэшце, прэзбітэрскае пасвячэнне. Таму прыняцце паслугі лектарату з’яўляецца чарговым крокам на шляху да Хрыстовага святарства і набліжае семінарыстаў да іх мэты.

У гаміліі арцыбіскуп Станеўскі казаў пра значэнне слова. Ён падкрэсліў, што словы могуць параніць, а могуць вылечыць. Таму іерарх пажадаў новым лектарам заўсёды быць сведкамі Евангелля і ўмела дзяліцца ім з іншымі. Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі заахвоціў семінарыстаў, каб задачу, якую Касцёл на іх ускладае, яны выконвалі згодна з Божай воляй, а таксама ўзрасталі ў веры і любові ў служэнні Касцёлу.

Прыняццю паслугі папярэднічалі велікапосныя рэкалекцыі, якія завяршыліся напярэдадні семінарыйнай урачыстасці.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ВАТЫКАН.** Святы Айцец перадаў украінскім бежанцам медыцынскія матэрыялы. Грузавы аўтамабіль з гуманітарнай дапамогай прыбыў з Рыма ў Львоў. Шпрыцы, пластыры, дэзінфікацыйныя сродкі і іншыя неабходныя рэчы даставіў у цэнтр збору гуманітарнай дапамогі пры ўкраінскай грэка-каталіцкай царкве св. Сафіі ў Рыме Апостальскі элемазінарый кардынал Конрад Краеўскі. У бліжэйшы час ва Украіну адправяцца таксама лекі і прадукты харчавання з Ватыкана. Апостальская элемазінарыя накіравала таксама фінансавыя сродкі для аказання дапамогі ахвярам вайны ў свае дыпламатычныя прадстаўніцтвы ў дзяржавах, куды скіроўваюцца бежанцы.

**АНГЛІЯ.** Восем біскупаў, якія прадстаўляюць каталіцкі епіскапат Англіі і Уэльса, скіравалі Міністру замежных спраў Вялікабрытаніі Элізабэт Трас падзяку за дапамогу Украіне і супрацьстаянне расійскай агрэсіі. “Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў Англіі і Уэльса далучаецца да Касцёла ў Еўропе, заклікаючы міжнародную супольнасць дзейнічаць сумесна і рашуча, каб неадкладна спыніць вайну Расіі супраць Украіны і зрабіць усё магчымае для абароны нявінных мужчын, жанчын і дзяцей”, – заявілі іерархі ў пачатку ліста да кіраўніка брытанскага Міністэрства замежных спраў.

**ГЕРМАНІЯ.** Вясновае пленарнае пасяджэнне Канферэнцыі Біскупаў Германіі пачалося з гарачага заклiку да міру і асуджэння ваеннай агрэсіі Расіі супраць Украіны. Сітуацыя ва Украіне – адзін з цэнтральных пунктаў чатырохдзённай сустрэчы. Іерархі абмяркавалі гэтую тэму з экспертамі, найперш ў плане дапамогі бежанцам. Кіраўнік нямецкага епіскапату падзякаваў за шматлікія малітвы за мір і мірныя ініцыятывы ў Германіі. Ён запэўніў, што “гэтая верная салідарнасць у малітве працягнецца, пакуль не будзе пераадолены жах вайны”.

**ПОЛЬШЧА.** У польскіх кінатэатрах адбылася прэм’ера першага фільма пра аб’яўленні ў Гвадэлупе. “Гэты фільм заклікае задумацца над якасцю нашай веры і паказвае, што нават у самых складаных сітуацыях Маці Божая з’яўляецца для чалавека асаблівай апорай”, – расказвае Пшэмыслаў Врэнзлевіч, дырэктар кракаўскага “Rafael Film”, які адказвае за пракат фільма “Гвадэлупскі цуд” у Польшчы. У фільме прадстаўлены падзеі 500-гадовай даўнасці. 12 снежня 1531 года Марыя з’явілася простаму ацтэку Хуану Дыега. Яна была апранута ў блакітны плашч і ружовую туніку, перавязаную чорнай стужкай, што для індзейцаў было выразным сігналам, што яна чакае дзіця.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

## ЛІСТЫ ЧЫТАЧОЎ

# «САМАЯ ВОЗВЫШЕННАЯ МОЛИТВА – МОЛИТВА ПРОСЛАВЛЕНИЯ»

*Елена Хорольская*

Когда-то я работала в маленькой деревне на берегу моря. Там стоял костёл, посреди которого висело большое распятие. Всё бы ничего, но Иисус на нем был настолько неестественно худой, что это каждый раз привлекало моё внимание. Однажды я не выдержала и с возмущением спросила: «Иисус, ну почему Ты тут такой тощий?!» А Он ответил: «Какая твоя молитва, такой и Я здесь»...

Мне всегда казалось, что молитва – моё слабое место. Но что такое молитва? Многие скажут, что это разговор с Богом. Я не соглашусь, так как молитва – это нечто большее! Это личные отношения человека с живым Богом! Каждый контакт с Богом – на коленях, стоя, сидя, на ходу, протяжённостью в час, полчаса или секунду – является открытием своего сердца перед Господом. Сердца, наполненного радостью или грустью, любящего или озлобленного, раненого или исцелённого. И это сердце мы можем изменить только вместе с Ним.

Немецкий пастор богослов Альберт Швейцер говорил, что молитва не может изменить мир. Изменить мир может только человек. А человека может изменить молитва.

Можно знать абсолютно всё про молитву: точные богословские определения, виды, способы, правила, протяжённость по времени, положение тела, иметь множество молитвенников на полке. Но это всё бессмысленно, если знать только теорию, но при этом не иметь практики. Это подобно тому, как в теории учиться плавать, но ни разу не залезть в воду. Молитва – практика протяжённостью в жизнь.

Но как определить, какой должна быть хорошая молитва? Самое главное условие – помнить, что это МОЯ молитва! Она не должна быть на показ, чтобы окружающие люди могли оценить, какая я молодец. Она не должна быть вынужденной обязанностью перед Богом или страхом перед Его гневом. Молитва нужна не Богу, а мне самой. В молитве я меняюсь, развиваюсь, учусь, становлюсь лучше и всё больше познаю Всевышнего. Я раньше не понимала, какой смысл в утренней или вечерней молитве, где ты по кругу произносишь одни и те же слова. А теперь понимаю, что в каждой молитве – «Отче Наш», «Возрадуйся Мария...» – содержится всё, во что я, как христианин, верю. И каждое утро я как бы напоминаю себе об этом. Напоминаю, чтобы не забывать, кто я и Кому принадлежу. А вечером анализирую, прожила ли я день как христианка, или где-то напортачила.

О чём говорить с Богом? Самой частой и распространённой молитвой является молитва-просьба. Нет ничего плохого в просьбе, ведь я прошу у моего Отца. Каждый ребёнок просит у своего отца. А любящий отец никогда не отказывает своему ребёнку. Но как же порой не хватает при этом покорности и доверия Богу. Потому что я нетерпелива и не хочу ждать. Хочу здесь и сейчас! И я упрямо думаю, что лучше, чем Бог, знаю, как должно быть. Временами люди будто шантажируют Бога молитвой. Вот я отговорю «Помпейскую Новенну», а Ты, Господь, исполни то, что я пожелал. Но Бог не фея, а Тот, кто, прежде всего, желает человеку добра. Если бы Бог исполнял пожелания каждого человека, это было бы подобно тому, если бы зажечь зелёный свет на светофорах для всех водителей, чтобы им не пришлось ждать. Это привело бы к большой катастрофе. В молитве-просьбе важно научиться покорности и доверию. Нужно научиться ждать. Ждать порою даже несколько лет, а порой и целую жизнь, подобно св. Монике, которая выпросила для сына святость.

К сожалению, у многих людей молитва-просьба – это единственная форма молитвы. Молитву благодарения Бог слышит реже, чем молитву прошения. Ведь человек начинает ценить что-то только тогда, когда это потеряет. Человек скуп на благодарность за то, что имеет. Библия учит: «Всегда благодарите» (ср. 1 Фес 5, 18). А Бог иногда специально что-то отбирает у человека, чтобы тот наконец-то к Нему повернулся.



Важной является молитва прощения. Тут встречается обличение и порицание. Это две разные вещи. Иногда порицание приписывают Богу. Но оно исходит не от Бога, а от дьявола. Человек думает о том, какой он неисправимый грешник, и что Бог никогда не сможет его простить. Но Бог не хочет указывать человеку на его слабости и грехи. Бог обличает грех, чтобы показать, как он разрушает жизнь человека, чтобы тот мог изменить своё сердце и жизнь.

Но одной из самых возвышенных молитв является молитва прославления. Это выражение огромной любви человека к Богу. Когда парень влюбляется в девушку, он ею любуется и осыпает тысячами комплиментов. Подмечает, какие у неё красивые глаза, стройная талия, как она красиво говорит. Так и любящий христианин осыпает своего Небесного Отца комплиментами: «Как чудесно, Господь, Ты меня сотворил, как прекрасен Ты в этом солнечном дне, во взгляде моего наивного ребёнка. Как люблю я Тебя в поступках моих добрых друзей. Как я счастлива, что Ты мой любящий Отец!». И Бог отвечает своему ребёнку через святую Евхаристию. Как написано в Катехизисе Католической Церкви, хвалебная молитва, абсолютно бескорыстная, восходит к Богу; она воспевает Бога ради Него самого, славит Его не только за то, что Он делает, но и за то, что Он есть.

Легко молиться, когда чувствуешь Бога. Но иногда бывают такие периоды, когда нет ни чувств, ни эмоций. Молитва требует усилия, но всё равно получается сухой и не приносит покоя в сердце. Становится стыдно перед Богом за то, что ты ничего не можешь с собой поделать. Можно, конечно, не мучить себя, но за Любовь нужно бороться, потому что только в этой Любви спасение. Усилие и есть проявлением любви к Богу. Будучи неофитом, я испытывала в молитве огромную радость! Но затем наступила пустота в сердце, которая длилась около 7 лет. Это было очень мучительно. И я говорила Богу: «Господь, я сегодня не как глина в Твоих руках, а как застывший бетон! Пусть я ничего не чувствую, но я всё равно буду к Тебе приходить, чтобы хоть как-то быть с Тобой. Это лучше, чем существовать без Тебя». И Бог оценил эти усилия.

Спасибо Господу за то, что Он всегда рядом. Спасибо за бескорыстную любовь Отца, за жертву Иисуса Христа и за каждое вдохновение от Святого Духа. Аминь

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# ВЕРА РОБІЦЬ НАС УСТОЙЛІВЫМІ ДА СТРЭСАЎ



*Кс. Павел Салабуда, псіхолаг*

Каб знайсці адказ на пытанне, што рабіць са стрэсам у складаных сітуацыях нашага жыцця, прапаную спачатку пазнаёміцца з найбольш важнай інфармацыяй на дадзеную тэму.

Па-першае, стрэс датычыць кожнага чалавека. Гэта рэакцыя арганізма на падзею, якая непакоіць наша жыццё. Яна можа быць як цяжкай, негатыўнай (напр. дрэнная адзнака ў школе), так і станоўчай (напр. шлюб блізкага чалавека). Мы не здольны пазбегнуць стрэсу, можам толькі паспрабаваць дыстанцыравацца ад таго, што парушае раўнавагу нашага арганізма. Але немагчыма ізалявацца ад усяго навокал. У наш час адбываецца вельмі шмат складаных падзей: і больш маштабных, як, напрыклад, вайна ва Украіне ці каранавірусная хвароба, і тых, якія тычацца нашага прыватнага жыцця.

Варта памятаць, што ўсе мы па-рознаму рэагуем на стрэс і вучымся гэтай рэакцыі. Акрамя таго, што стрэс можа ўскладніць наша жыццё, прадстаўляць пагрозу, ён таксама ў некаторых выпадках можа дадаць нам энергіі і матываваць дзейнічаць.

Часцей за ўсё я сёння чую выказванні кшталту "Я не хачу жыць у стрэсе", "Я ўся ў стрэсе", "Нічога не магу зрабіць з-за стрэсу". У гэты момант успамінаю словы канадскага даследчыка гэтай з'явы Ганса Сельє, які сказаў, што "без стрэсу не было б жыцця".

Ёсць шмат розных парад па барацьбе са стрэсам. Прапаную некалькі спосабаў, якія могуць дапамагчы нам яго пераадолець:

**1.** Паспрабуем паглядзець на складаную сітуацыю і заняць сваю пазіцыю на гэты конт, шукаць даследаванні і змагацца за сваю слушнасць. Варта паверыць у сябе і пазнаць пазітыўныя рэчы пра сябе.

**2.** Даведаемся больш аб складанай сітуацыі. Напрыклад, атрыманыя веды аб пэўнай хваробе дапамогуць нам эфектыўна змагацца з ёю.

**3.** Дыстанцыруемся і не будзем турбавацца аб дадзенай сітуацыі. Нават калі чалавек спрабуе гэта рабіць хаця б знешне, у яго ёсць магчымасць спакойна здзяйсняць наступныя крокі ў напрамку вырашэння складанай сітуацыі. У такіх выпадках вельмі дапаможа самакантроль, калі чалавек вучыцца раўнавазе і самавалоданню.

**4.** Знойдзем сацыяльную падтрымку. Блізкасць людзей, якія падбадзёрваюць, заўсёды будзе мець на нас станоўчы ўплыў. Размова з блізкай асобай ці дапамога спецыяліста часам могуць кардынальна змяніць складаную сітуацыю.

**5.** Пазітыўна пераацэнім сітуацыю. Варта паспрабаваць спазнаць добрыя бакі, калі такія ёсць.

Аднак асаблівую ўвагу кожнага з Вас я б хацеў звярнуць на такі момант: вера дапамагае змагацца са стрэсам. Ёсць мноства розных даследаванняў, вынікі якіх паказваюць, што рэлігійныя перакананні station... 

Ёсць мноства розных даследаванняў, вынікі якіх паказваюць, што рэлігійныя перакананні становяцца ўплываюць на псіхічнае здароўе чалавека. Вялікая колькасць навукоўцаў сцвярджае, што веруючым людзям значна лягчэй пазбавіцца ад залежнасцей і стрэсу, а амерыканскія даследчыкі Парадзіні і Пэйдж упэўнены, што каталіцкая вера робіць людзей больш устойлівымі да стрэсавых сітуацый. Вынікі даследаванняў паказваюць, што найвышэйшы ўзровень рэлігійнасці звязаны з большым аптымізмам, пачуццём сацыяльнай сувязі, устойлівасцю да стрэсу і пачуццём задаволенасці жыццём.

На заканчэнне хацеў бы прыгадаць заахвочванне Езуса: "Няхай не трывожыцца сэрца вашае. Верце ў Бога і ў Мяне верце" (Ян 14, 1).

# НА ШЛЯХУ ДА ПАКАЯННЯ



*Яна Чайко*

У маладосці часта жыццёвае крэда – "жывём адзін раз". І менавіта з-за яго робіцца найбольшая колькасць учынкаў, пасля якіх сорамна. Але ці заўсёды сорамна? Ці заўсёды ёсць пачуццё таго, што ты ўчыніў грэх? На жаль, не.

Часта галаву наведваюць думкі: "Але ж не трэба так рабіць, гэта дрэнна". І ў большасці выпадкаў ты проста махаеш рукой, бо "ўсе так робяць", і вырашаеш падумаць аб гэтым пазней. А калі прыходзіць час на гэтае "пазней", то і думкі адпаведныя: "Ну, што зроблена, тое зроблена" або "Так, учынак дрэнны, але ж было весела". Звычайна, калі я аналізую з кімсьці нейкі момант ці перыяд жыцця і не магу зразумець, добра я зрабіла ці не, мне задаюць пытанне: "Табе тады было добра?". Калі было добра, то чаго перажываць? А калі нядобра, значыць, насамрэч дрэнна зрабіла.

Я яшчэ не дайшла да таго ўзросту, каб перастаць казаць, што я жыву адзін раз. Я сапраўды лічу, што цяпер перада мною ўвесь свет і гэта найлепшы час, каб жыць для сябе і спаўняць свае мары. Таму і пакаянне для мяне яшчэ не раскрыта да канца. Але таксама лічу поспехам, што, аналізуючы мінулае і рыхтуючыся да споведзі, я ўсё часцей задаю сабе пытанне: "Як гэта выглядае з пункту гледжання запаведзей і навукі Касцёла?". І тут вялікую ролю адыгрывае маё сумленне. Бо, адказваючы на пытанні з рахунку сумлення, пачынаю ўсведамляць, што той ці іншы ўчынак насамрэч дрэнны. Вось тут і пачынаецца пакаянне: жаданне змяніць сваё жыццё, адрачыся ад граху і больш такога не рабіць.

# ГРАХІ, ЯКІЯ НАКЛІКАЮЦЬ БОЖУЮ ПОМСТУ

*працяг з папярэдняга нумара*

*Кс. Тадэвуш Крыштопік*

### КРЫЎДА ЎБОГАГА, УДАВЫ І СІРАТЫ

Гэты грэх, які наклікае Божую помсту, здзяйсняюць тыя, хто крыўдзіць, прыніжае або выкарыстоўвае слабых і нядольных абараніць сябе ці адмаўляецца дапамагчы ім у крытычнай сітуацыі. На старонках Старога Запавету шмат спасылак на Божы закон, які прадугледжвае абарону самых слабых. Прарок Ісая ўсклікае: "Шукайце правасуддзя, дапамагайце прыгнечанаму, абараняйце сірату, заступайцеся за ўдаву" (Іс 1, 17). У Кнізе Другазаконня чытаем: "Бог чыніць справядлівасць сіротам і ўдовам, і любіць чужынца, даючы яму хлеб і вопратку. І вы любіце чужынца, бо вы самі былі чужынцамі ў зямлі Егіпецкай" (Дрг 10, 18–19). У Кнізе Зыходу мы знаходзім упэўненне, што Бог не застаецца глухім да крыку пакрыўджанага. "Ні ўдавы, ні сіраты не ўціскайце. Калі пакрыўдзіце іх і яны паскардзяцца Мне, я пачую іх скаргу, запалае гнеў Мой, і Я знішчу вас мячом; і будуць жонкі вашы ўдовамі, а дзеці вашы сіротамі" (Зых 22, 22–24).

У часы Старога Запавету ўдовы, сіроты і чужаземцы не мелі маёмасці, сацыяльнага становішча, а часам і належнай спадчыны. Чужаземцы былі пазбаўлены падтрымкі сваякоў. Такім чынам, гэта былі сацыяльныя групы, чый матэрыяльны лёс залежаў ад іншых. Біблія настойвае на тым, што Бог асабліва клапоціцца аб сіротах і ўдовах, бо яны найбольш уразлівыя да дрэннага абыходжання з боку іншых. У цяперашні час удовы, сіроты і чужаземцы маюць гарантаваныя дзяржавай асноўныя бытавыя правы. Аднак Божая перасцярога ад граху, які наклікае Яго помсту, застаецца актуальнай і сёння.

### ЗАЎСЁДЫ АКТУАЛЬНАЯ СПАКУСА

"Убогіх заўсёды маеце пры сабе" (Ян 12, 8), – сказаў Хрыстос. Таму што як у біблейскія часы, так і сёння ёсць людзі бездапаможныя і безабаронныя ў пэўных жыццёвых сітуацыях. Такая пагроза заўсёды актуальная, хаця сучаснае дэмакратычнае грамадства адстойвае правы чалавека. На месцы безабароннага можа апынуцца і той, хто ўчора адчуваў сябе моцным. Спакуса выкарыстаць сваю сілу, вышэйшую жыццёвую пазіцыю або ўладу ў адносінах да слабейшага чалавека па-ранейшаму актуальная, і многія ёй паддаюцца. Такім чынам, мы можам выразіць цытаваныя вышэй словы з Бібліі сучаснай мовай: прычыненне шкоды асобе, якая знаходзіцца ў складанай сітуацыі – не абавязкова ўдаве ці сіраце, – не застанецца беспакараным.

Тыя, аб правах якіх няма каму паклапаціцца на зямлі, маюць свайго асаблівага Заступніка ў Богу. Гэта падказка для нас, што, незалежна ад сацыяльнага ладу, Божы Закон нязменны і аднолькава абавязвае ўсіх.

### ЗАТРЫМЛІВАННЕ НАЛЕЖНАЙ ПЛАТЫ

Грахом, які наклікае Божую помсту, з'яўляецца таксама затрымліванне належнай платы за выкананую працу. Кніга Другазаконня ясна вучыць: "Не крыўдзі найміта, беднага і ўбогага. У той дзень аддай плату ягоную, каб сонца не зайшло раней таго, каб ён не паскардзіўся на цябе Госпаду" (параўн. Дрг 24, 14–15). Пра гэты грэх можна прачытаць таксама ў Новым Запавеце ў Пасланні св. апостала Якуба: "Вось кліча плата, якую вы затрымалі працаўнікам, што жалі вашы палеткі, і крык жнящоў дайшоў да вушэй Пана Магуццяў" (Як 5, 4). Скарга прыгнечанага працаўніка заклікае Бога пакараць несумленнасць.

Справядлівы заробак з'яўляецца асноўным сродкам рэалізацыі прынцыпу сацыяльнай справядлівасці. Таму тыя, хто наймае працаўнікоў, павінны памятаць не толькі пра тое, каб даць работнікам справядлівую зарплату, але і каб даць яе своечасова.

### КРЫЎДА ПРАЦАЎНІКА І ЯГО БЛІЗКІХ

Працаўнік, уносячы ўклад у прыбытак наймальніка, мае відавочнае права на справядлівае ўзнагароджанне, якое павінна ўлічваць час, намаганні, адказнасць і многія іншыя элементы, залежныя ад віду працы. Утрыманне заробку або непрапарцыянальна нізкая аплата лічыцца парушэннем законнага права працаўніка і пазбаўленнем яго сродкаў, неабходных для жыцця, а з боку наймальніка з'яўляецца несправядлівым і беспадстаўным выкарыстаннем плёну чужой працы. Таксама варта падкрэсліць, што гэтая несправядлівасць закранае не толькі самога працаўніка, але і яго сям'ю, за матэрыяльнае становішча якой ён адказны.

### САЦЫЯЛЬНАЯ СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

Справядлівая плата з'яўляецца асноўным сродкам рэалізацыі прынцыпу сацыяльнай справядлівасці. Ян Павел II у энцыкліцы аб чалавечай працы "Laborem exercens" піша: "Ключавой праблемай сацыяльнай этыкі ў дадзеным выпадку становіцца пытанне справядлівай аплаты за выкананую працу. У сучасным кантэксце няма іншага, больш важнага спосабу ажыццяўлення справядлівасці ў адносінах паміж працаўніком і працадаўцам, чым гэты: аплата працы" (LE 19).

Можна сказаць, што ў гэтай сферы ўзнікае ўсё больш новых відаў злоўжыванняў, што вынікае з усё больш развітай і складанай сістэмы эканомікі і гаспадаркі. Чым больш магчымасцей зарабіць, тым большая верагоднасць злоўжыванняў, а значыць і шкоды іншым.

Грахом, які наклікае Божую помсту з'яўляецца таксама, напрыклад, карупцыя, хабарніцтва, адмыванне грошай, пазбаўленне працаўніка пенсійнага страхавання, расплата алкаголем ці распустай.

Найбольш характэрнымі для сучаснасці і супярэчлівымі вышэйпрыведзеным прынцыпам справядлівасці і салідарнасці з'яўляюцца карупцыя і хабарніцтва ўсіх відаў. І карупцыянеры, і хабарнікі атрымліваюць неправамерныя сродкі, здабываючы іх несправядліва, парушаючы правы іншых людзей або супольнасцей.

# “УСЕ СТЭРЭАТЫПЫ БАЗУЮЦЦА НА НЕДАХОПЕ ВЕДАЎ”. РАЗМОВА З НАСТАЎНІЦАЙ МРП

працяг са с. 1

**Стагоддзямі сексуальнае выхаванне было, у першую чаргу, прэрагатывай сям'і. Сёння грамадства набірае ўсё больш вагі ў гэтым працэсе. Два гады таму папа Францішак заявіў, што сексуальнае выхаванне трэба даваць ў школах, але “аб'ектыўна, без ідэалагічных каланізацый”. З Аленай Шымак, шматгадовай выкладчыцай англійскага метаду распазнавання пладнасці, размаўляем пра стан ведаў католікаў у сферы сексуальнасці, стэрэатыпы, пошук хрысціянскага погляду і праблемы Касцёла на гэтым полі, а таксама пра актуальнасць сексуальнага выхавання ў Беларусі і моманты, на якія варта звяртаць увагу моладзі, бацькам і душпастырам.**

Размаўляў Арцём Ткачук

***– Папа Францішак неяк сказаў, што “ў ідэале сексуальнае выхаванне павінна пачынацца дома, яго павінны даваць бацькі”. Як у нас з гэтым у Беларусі?***

– Давайце я адразу расстаўлю кропкі над “і” ды акрэслю сваю пазіцыю. У коле абаронцаў жыцця ёсць пэўны слоўнік. У нас даўно прынята, што слова “секс” мы не выкарыстоўваем, а замяняем яго паняццем “сужэнская блізкасць”. Гэта звязана з тым, што сексам акрэсліваецца штосьці, што дазволена не толькі мужу і жонцы, але і людзям без шлюбу, мужчыну з мужчынам, жанчыне з жанчынай і г. д. Гэта паняцце, якое ўжо асацыіруецца з нейкай усёдазволенасцю. Таму наш тэрмін завужае дапушчальнасць гэтага дзеяння канкрэтна да мужа і жонкі.

***– І як з выхаваннем ды адукацыяй дзяцей у сферы сексуальнасці ў беларускіх сем'ях?***

– У слухачоў маіх курсаў веды пра свой арганізм, фізіялогію мужчыны і жанчыны, дзетародную функцыю, гарманальную рэгуляцыю вельмі слабыя. Скажу так: сексуальнай адукаванасці ў плане “што б дрэннага нам зрабіць” вельмі шмат. Гэтым мільгае інтэрнэт, стрымы гінеколагаў. Аднак пра нявіннасць, пра розніцу паміж мужчынам і жанчынай, пра шкоду розных відаў кантрацэпцыі нашай моладзі ёсць мала што сказаць сваім аднакурснікам, якія пытаюцца: “А што тут такога? Гінеколаг жа раіць, значыць можна”. А хлопцам яшчэ кажуць, што і трэба.

Я лічу, што пачынаць неабходна з дзяцінства і з найпрасцейшага – што такое жаноцкасць і мужчынскасць. Не ў плане адносін да іншага полу, а ў плане адносін да самога сябе. У сілах бацькоў данесці, як гэта і што гэта. Хлопчык – будучы абаронца, галава сям'і, ён моцны не для таго, каб тыраніць, а каб бараніць. Дзяўчынка – будучае сэрца сям'і і мацярынства, якое сёння, на жаль, ужо нямоднае.

Пазней моладзь сустракаецца з наплывам інфармацыі, і Касцёлу крайне неабходна праводзіць нейкія сустрэчы таксама. Трэба не перадазіраваць, але і не ігнараваць гэтую тэму.

***– Я правільна разумею, што моладзь выдатна арыентуецца ў метадах, якімі мігціць інтэрнэт, а ў метадах Касцёла – нашмат горш?***

– Таму што метады Касцёла агучваюцца як штосьці кшталту “кантрацэпцыя забаронена”, і на гэтым усё. Без тлумачэнняў, што можна вывучыць свой арганізм і жыць у згодзе з рытмам пладнасці. Як вынік – захаваць фізічнае і духоўнае здароўе.

***– Ці ёсць у Вас нейкі топ стэрэатыпаў пра сексуальнасць?***

– Галоўны стэрэатып – гэта працягласць жаночай пладнасці. Пладнасць жанчыны вельмі абмежаваная, многія ж лічаць, што жаночая яйцаклетка можа жыць тыдзень. Ці што мужчынскія сперматазоіды могуць жыць у целе жанчыны ну проста пастаянна. Гэта смешна і сумна.

Амаль кожная жанчына, якая прыходзіць да мяне на курс, лічыць любы крывацёк менструацыяй і часам няпладнасці, адпаведна час да і пасля яго – перыядам няпладнасці. Па гэтай прычыне ў жанчын вельмі часта ўзнікае нечаканая цяжарнасць.

Яшчэ адзін з жаночых стэрэатыпаў – “я заўсёды адчуваю сваю авуляцыю”. Так, гэта можна адчуць па нейкіх дадатковых прыкметах, аднак наш арганізм можа па-рознаму ў розны час сябе адчуваць і пасылаць падобныя сігналы. Насамрэч жа мы іх можам няправільна інтэрпрэтаваць. Без назіранняў і ўмення можна патрапіць пальцам у неба: адны будуць перажываць, чаму не наступае зачацце, іншыя – як магла з'явіцца цяжарнасць?

***– А ёсць такі ж топ стэрэатыпаў пра навучанне Касцёла адносна сужэнскай блізкасці?***

– Да мяне часта прыходзяць сужэнцы з пытаннем: “А што можна? Што ў Касцёле ўвогуле можна ў гэтай сферы?”. Я ў поўным тупіку. Людзі часта думаюць, што ёсць толькі забароны: мы зараз прыйдзем і будзе адно суцэльнае “нельга” ды ўстрыманне, і мы станем глыбока нешчаслівымі людзьмі. Гэта асноўны стэрэатып – забароны.

Некаторыя прыходзяць і проста кажуць: “Я гэтаму не веру. Я прыйшла, бо ў мяне няма іншага выбару. Але я не веру”. І пазней, калі чалавек дзеліцца, што можа цяпер ісці да Камуніі, споведзі, што ёсць шчаслівая сужэнская блізкасць, што перастালі адзін аднаго баяцца, то гэта, канешне, вельмі радасна.

***– Ці я правільна разумею, што ўсе стэрэатыпы ў гэтым плане бяруцца менавіта з недастатковай адукаванасці?***

– 100%. Адкуль ім яшчэ ўзяцца? Усе стэрэатыпы базуюцца на недахопе ведаў. Іх проста няма. Штосьці мы вывучаем на біялогіі ў школе, але гэта вельмі абмежаваныя веды. Да гэтага дзяўчыны цалкам не прызвычаеныя да назірання за сабой.

***– І гэта ў XXI стагоддзі.***

– Так.

***– Ці ёсць у Вас ідэі, што варта рабіць сёння на гэтым полі для дасягнення якасных змен?***

– Першай справай я б прасіла, патрабавала, шукала фінансаванне, каб нам зрабіць сваю беларускую асацыяцыю настаўнікаў метадаў распазнавання пладнасці. Каб мы маглі арганізаваць якаснае навучанне кансультантаў.



*Алена Шымак – шчаслівая жонка і мама шасці дзяцей. Настаўніца курса па метадзе распазнавання пладнасці англійскай мадыфікацыі. Жыве ў Мінску.*

Таксама мяркую, што адна з галоўных прычын, чаму не расце колькасць людзей, гатовых служыць выкладаннем МРП ці працай з моладдзю, – матэрфыяльны бок пытання. У нас гэта толькі валанцёрства, заснаванае на энтузіязме. Далёка не кожны ў стане нават фізічна, маючы сям'ю і працу, прысвячаць час яшчэ нейкаму служэнню. Калі б у гэтай сферы можна было быць працаўладкаваным, атрымліваць заробак, то, думаю, нашмат больш людзей гатовыя б былі гэтым займацца. У гэтым плане ў нас вялікая праблема.

Таму нам хутчэй не хапае не ведаў, а настаўнікаў, якія б імі дзяліліся. Гэта вельмі сур'ёзны праблем. Аднойчы я бачыла артыкул з загалоўкам “Калі б я быў біскупам”. Дык вось, калі б я была біскупам, то шмат уклала б у тое, каб у кожнай парафіі быў добра падрыхтаваны кансультант ці настаўнік па МРП.

***– У школах ёсць факультатыў “Асновы сямейнага жыцця”. Можа, Касцёлу таксама варта ўвесці сексуальнае выхаванне ў праграму працы з моладдзю? Усё-такі ёсць розныя курсы і сустрэчы, але пра сужэнскую блізкасць іх мала.***

– Ведаю, што ў Смаргоні ёсць Вераніка і Эдуард Рогачы, і ў іх ёсць сустрэчы для старэйшай моладзі. Там яны кажуць пра розніцу мужчын і жанчын, пра адносіны, рознасць успрыняцця, пра тое, наколькі па-рознаму мы рэагуем на знешнія ўзбуджальнікі.

У іх на курсе ёсць заданне, калі хлопцы і дзяўчаты малююць вобраз ідэальнай дзяўчыны. Для дзяўчат часта з'яўляецца адкрыццём, што хлопцы хацелі б бачыць іх у сукенках. Часта для хлопцаў сукенка ці спадніца асацыіруюцца з жаноцкасцю. Таму, напрыклад, пераняцце такога курса іншымі супольнасцямі мела б сэнс.

***– Пра што яшчэ важна распавесці хлопцам і дзяўчатам? Пералічыце, калі ласка, некалькі важных тэм?***

– Мы неяк разбіралі, што нам транслююць сучасныя мастацкія фільмы. Бралі некалькі стужак і назіралі за падачай развіцця адносін. Гэта было цікава.

Яшчэ моладзі падабалася абмяркоўваць жаноцкасць і мужчынскасць у плане манер. Сёння манеры адышлі на другі план. Мужчына, напрыклад, не павінен паднесці, падаць, прапусціць наперад. Таму абмеркаванне элементарнай галантнасці было карысным для хлопцаў. Для дзяўчат жа актуальная тэма прыняцця гэтай галантнасці, бо сёння “трэба” быць моцнай, самадастатковай, не праяўляць слабасць.

Ну і тэма захавання дашлюбнай чысціні не губляе актуальнасці.

***– А што з курсамі падрыхтоўкі да шлюбу? Ці дастаткова сёння ў іх аднаго занятку па распазнаванні пладнасці?***

– З таго, што я чую ад людзей на сваіх курсах, то не. Наша дзетародная функцыя – гэта складаны фізіялагічны працэс. Аднаго занятку вельмі мала.

З іншага боку, у людзей, якія яшчэ ходзяць на передшлюбныя курсы, няма матывацыі. У іх не стаіць задача пачаць ці адкласці зачацце. Пакуль што яны думаюць: “Няхай будзе, як ёсць”. Пазней ужо, калі дзіця доўга не з'яўляецца ці ідзе адно за другім, яны пачынаюць шукаць, з'яўляецца матывацыя разабрацца.

***– Цікава. А як Вам ідэя ўключэння калі не цалага, то хаця б часткі курсу МРП у перадшлюбную падрыхтоўку?***

– Я думаю, што можна больш ведаў даваць людзям. Нават з улікам таго, што яны не матываваныя прайсці ўвесь курс, аднак, каб нейкая база заставалася. Я ж бачу, што, напрыклад, у Паставах гэта працуе. Кансультанту ці настаўніку спакайней, што людзі пайшлі ў сужэнскае жыццё з пэўнай базай. У любым выпадку, я абсалютна “за”, каб праходзіць курс МРП перад шлюбам цалкам.

***– А ёсць у Вас мара адносна развіцця МРП, тэмы сужэнскай блізкасці, сексуальнасці? Што б Вы хацелі ажыццявіць ці ўбачыць у сваім жыцці?***

– Мы з мужам з'яўляемся членамі руху Equipes Notre-Dame (END) – руху сужэнскай духоўнасці. Туды ўваходзяць актыўныя людзі, гатовыя служыць. Адзін са складнікаў гэтага служэння – суправаджэнне маладых людзей падчас перадшлюбнай падрыхтоўкі. Па ўсім свеце гэта працуе, у нас яшчэ слаба развіта. Пакуль што ўдзельнікі гатовы браць у руху, але не асабліва даваць штосьці ад сябе.

Мая мара – убачыць развіццё суправаджэння маладых пар перад шлюбам парамі з сужэнскім і сямейным вопытам, якія гатовы сведчыць, як весці дыялог, як разам маліцца, адказна прымаць і выхоўваць дзяцей.

І, канешне, рост колькасці кансультантаў МРП. Каб пары мелі да каго звярнуцца ў розны перыяд свайго жыцця. Жаночая пладнасць заўсёды іншая – да нараджэння і пасля нараджэння дзіцяці, у перыяд згасання дзетароднай функцыі. Каб у кожны перыяд атрымаць кампетэнтны адказ, не згубіць сужэнскую блізкасць, не паддацца граху кантрацэпцыі і каб усё гэта было блізка да дому, да сваёй парафіі.

Мару ўсё гэта ўбачыць, але ўжо як Бог дасць.

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Што азначае назва “Вячэра Пана” для акрэслення св. Імшы?

Niedziela.pl

*Гэтая назва, якая выкарыстоўваецца для абазначэння св. Імшы, выклікала замяшанне ў некаторых вернікаў. Найперш таму, што яна падобна на “святую Вячэру”, якую выкарыстоўваюць пратэстанты, чыя дактрына ў гэтай справе, як вядома, не згаджаецца з каталіцкай. Па-другое, гэты выраз нібы пакідае ўбаку канцэпцыю ахвяры: св. Імша была б звычайным застоллем.*

*Адразу трэба сказаць, што прычын для трывогі няма. Гэта самая старажытная назва Эўхарыстыі, якую выкарыстоўваў нават св. Павел у Першым пасланні да Карынцянаў (11, 20): “Таму, калі вы збіраецеся дзеля гэтага, то гэта не спажыванне Вячэры Пана”.*

*Калі мы гаворым пра “Вячэру Пана”, думаем пра тое, што сядзім з Уваскрослым і з'яўляемся з Ім адным цэлым.*

*Зрэшты, св. Імша літургічна выяўляецца як трапеза, Вячэра, накрыты стол, як паказвае мадэль і схема Апошняй Вячэры: Езус узяў хлеб (= прыгатаванне і прынясенне хлеба і віна, г. зв. “offertorium”); узнёс падзяку (= Эўхарыстычная малітва, або “канон”); паламаў яго (= ламанне хлеба); раздзяліў паміж вучнямі (= святая Камунія). Таксама першая частка, Літургія слова, мае форму вячэры ці трапезы: Божае слова “ламаецца і раздзяляецца”, як ежа ці хлеб, каб насыціць веру людзей.*

*ІІ Ватыканскі сабор у Канстытуцыі аб святой літургіі назваў св. Імшу “пасхальнай трапезай” (КЛ 47); “сталом Божага слова” акрэсліваецца першая яе частка (КЛ 51), якая разам з другой часткай складае адзін акт культу. У сваю чаргу “адзіным сталом” Сабор называе св. Імшу ў Канстытуцыі аб Божым Аб'яўленні (КА 21): “Хлеб жыцця падаецца як са стала слова Божага, так і з Цела Хрыстовага”.*

*Назва “Вячэра Пана” таксама мае два аспекты. Папершае, трэба ў ёй удзельнічаць, а дакладней – карміцца як словам, так і Целам Хрыстовым: няма сэнсу ўдзельнічаць у застоллі, устрымліваючыся ад ежы і піцця. Па-другое, кожная вячэра падразумявае ідэю групы, супольнасці, Касцёла; прысутнасць братоў або сваякоў, з якімі размаўляюць, паглыбляюць сувязі братэрства і любові.*

*Акрамя вяртання да вытокаў св. Імшы і дапамогі нам у лепшым разуменні ходу цэлебрацыі і прысутнасці Уваскрослага, назва “Вячэра Пана” падкрэслівае братэрскую, сямейную атмасферу, якая павінна існаваць паміж тымі, хто ў ёй удзельнічае.*

ЭКАЛОГІЯ СУЖЭНСТВА


Вераніка Рогач

***Прапануем Вашай увазе новую рубрыку, прысвечаную тэме экалогіі сужэнства – іншымі словамі, як жыць у згодзе з сабой, мужам/жонкай, дзецьмі і прыродай. Аўтарам з'яўляецца спадарыня Вераніка Рогач – каталічка, шчаслівая жонка і маці траіх дзяцей, псіхолаг і сямейны кансультант. Разам з мужам распрацавала і вядзе курс па навучанні сімптатэрмальнаму метаду распазнавання плоднасці.***

# "МЯДОВЫ МЕСЯЦ" НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ, АБО ЯК ЗАХАВАЦЬ КАХАННЕ НА ДОЎГІЯ ГАДЫ?

Гэтае пытанне задаюць сабе ўсе пары, якія стаяць на парозе шлюбу ці толькі ўступілі ў сямейнае жыццё.

Паспрабуйце ўзгадаць пачатак адносін. Якія эмоцыі ў Вас узнікаюць? Хутчэй за ўсё, радасць і запал, адзінства душы і цела. Сужэнская блізкасць прыносіць задавальненне, ён і яна жадаюць быць разам увесь час, а расстанне прыносіць пакуты. З часам штосьці змяняецца. Ужо няма таго драйву, эмоцыі становяцца спакайнейшымі, пераважаюць бытавыя пытанні.

***Чаму адносіны халадзеюць? Давайце разбірацца!***

Сужэнскае жыццё, як пазл, складаецца з мноства элементаў, якія ў адно цэлае злучае каханне. Адзін са спосабаў доказу кахання – шлюбная блізкасць. Гэта пік праявы любові да свайго мужа/жонкі і разам з тым вельмі далікатная сфера. Гэта не самае галоўнае ў шлюбе, але гэта неад'емны элемент сямейных адносін.

І калі ў сферы шлюбнай блізкасці ўзнікаюць праблемы (напр. сужэнцы не могуць адкрыта пагаварыць аб сваіх жаданях або не маюць павагі да стану адзін аднаго), то не будзе і радасці ад блізкасці. Пачнецца ўзаемнае пазбяганне.

Гэта асабліва балюча для мужчыны, калі жонка не жадае быць з ім. Мужчына становіцца больш устойлівым эмацыянальна, мацнейшым, мужнейшым, калі адчувае, што яго жонка жадае блізкасці з ім. Ён гатовы горы згарнуць дзеля яе. Каханне становіцца яшчэ мацнейшым, а жыццё – больш шчаслівым.

***Што ж забівае гэтае жаданне быць разам?***

**1. СТРАХ.** Страх нараджае выкарыстанне кантрацэпцыі, калі пара з дапамогай розных сродкаў і метадаў абараняецца ад зачацця дзіцяці. У месцы, дзе пануе каханне і разуменне, з'яўляецца напружанне і недавер. Любячыя людзі пачынаюць давяраць лёс дзіцяці нейкаму пэўнаму віду кантрацэпцыі. Гэта забівае адносіны – ціха і павольна, але дакладна.

**2. СПАНТАННАСЦЬ.** Спантаннасць у шлюбнай блізкасці ўласцівая ў большай ступені мужчынам. Жанчыне неабходны час. Яе сэрца, як кветка, патрабуе догляду, цяпла і ўвагі. Жанчыне важна ведаць, да якой гадзіны рыхтаваць сваё сэрца. У шлюбным жыцці важныя моманты перыядычнага ўстрымання, што дадае ў адносіны таямніцу, павагу да фізіялогіі адзін аднаго, давер і пяшчоту.

Вы спытаеце, што ж рабіць, жывучы ў свеце, дзе кантрацэпцыя – гэта норма, а ўстрыманне – мінулае стагоддзе. Тут трэба адзначыць, што ў Беларусі на 1000 пар 570 разводаў. Дык чаму ж не працуюць метады сучаснага свету? Можа, таму што ў іх аснове – грошы і бізнес, а не шчасце сям'і?

Аднак ёсць тое, што дапамагае парам жыць свядома і ў згодзе з сабой ды прыродай да апошняй хвіліны разам. Ведаю гэта з уласнага досведу і досведу працы з сямейнымі парамі.

**Гэта метады распазнавання плоднасці (МРП).**

Для мяне МРП – гэта дар, за які адчуваю бясконцую падзяку Богу. Жыць у згодзе са сваім целам, у даверы і павазе з мужам – адзін з галоўных бонусаў метаду, а іх шмат! Усё па парадку.

МРП – гэта не кантрацэпцыя, хаця можа ёю стаць. Мэта МРП – адкласці зачацце або запланаваць доўгачаканае дзіця.

МРП – навуковы метад, а не выдумка. Існуюць адмысловыя даследаванні, якія вядуць сусветныя цэнтры.

МРП – эфектыўны метад, які дазваляе адкласці зачацце з дакладнасцю 99,6% (па дадзеных САЗ, 2017 год), а запланаваць доўгачаканае зачацце з дакладнасцю 70%.


pixabay.com

МРП заснаваны на саманазіранні. Жанчына вывучае сваю плоднасць, фізіялогію і вучыцца вызначаць у сваім цыкле плодныя дні. Вучыцца весці спецыяльную карту назірання за сваім цыклам.

МРП – экалагічны метад, які не ўмешваецца ў натуральныя рытмы жанчыны, а дапамагае зразумець сябе.

МРП – гэта лад жыцця сямейнай пары, адносіны якой змяняюцца, абнаўляюцца, напаўняюцца даверам, павагай, любоўю. Гэта адзін з маіх любімых пунктаў. Бо я бачу, як навучаныя метаду пары расцвітаюць і пражываюць свой "мядовы месяц" усё жыццё, таксама як і мы з мужам.

РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч

***20 сакавіка – III Нядзеля Вялікага посту***
***Лк 13, 1–9***

У той час прыйшлі некаторыя і расказалі Езусу пра галілеян, кроў якіх Пілат змяшаў з іх ахвярамі. Езус адказаў ім на гэта: "Думаеце, што гэтыя галілеяне былі большымі грэшнікамі за ўсіх галілеян, бо так пацярпелі? Не. Кажу вам, але калі не пакаецеся, усе таксама загінеце. Думаеце, што тыя васемнаццаць, на якіх звалілася сілаамская вежа і забіла іх, былі больш вінаватыя за ўсіх людзей, якія жылі ў Іерусаліме? Не. Але кажу вам, калі не пакаецеся, усе таксама загінеце".

І расказаў вось якую прыпавесць: "Адзін чалавек меў у вінаградніку сваім пасаджаную смакоўніцу і прыйшоў шукаць плоду на ёй, і не знайшоў. І сказаў вінаградару: «Вось я трэці год прыходжу шукаць плоду на гэтай смакоўніцы, і не знаходжу. Ссячы яе. Навошта яна займае зямлю?». Але той сказаў яму ў адказ: «Пане, пакінь яе на гэты год. Я абкапаю яе і абкладу ўгнаеннем. Можа, прынясе плод у будучым, а калі не, ссячэш яе»".

## Чарговы шанс

*Бог заўсёды дае чалавеку шанс. Як не высякаецца адразу дрэва, што не прыносіць пладоў, так і чалавек, які знаходзіцца далёка ад Бога, мае магчымасць навяртання.*

*Атрымаць шанс – значыць нанова ўкласці сваю іерархію каштоўнасцей, адказаць сабе на пытанне, што самае галоўнае ў жыцці. Дадзены Богам шанс азначае, што Ён зноў адорвае кожнага з нас даверам, часта незаслужаным. Бог кажа: "Ты столькі разоў падводзіў Мяне, столькі разоў грашыў, столькі разоў казаў, што не маеш часу, а Я даю табе яшчэ адзін шанс! Выкарыстай яго".*

*Навяртанне з'яўляецца часткай нашай чалавечнасці. Гэта, перш за ўсё, вяртанне да вернасці, бо ўсе мы заплямленыя грахом, эгаізмам, любім засяроджвацца на сабе і думаць толькі пра сябе. Навяртанне паказвае на неабходнасць пастаянна быць гатовым да змены свайго жыцця і згоды быць пераможаным і захопленым Тым, хто "ласкавы і поўны міласэрнасці". Давайце адчуем дотык пяшчоты Бога Айца і прынясём цудоўны плён нашага жыцця.*

*Пане Езу Хрысце, дазволь мне спазнаць Тваю міласэрнасць!*

***27 сакавіка – IV Нядзеля Вялікага посту***
***Лк 15, 1–3. 11–32***

Набліжаліся да Езуса ўсе мытнікі і грэшнікі, каб паслухаць Яго. А фарысеі і кніжнікі наракалі, кажучы: "Ён прымае грэшнікаў і есць з імі". Але Езус расказаў фарысеям і кніжнікам наступную прыпавесць, кажучы: "У аднаго чалавека было два сыны. Малодшы з іх сказаў бацьку: «Ойча, дай належную мне частку маёмасці». І той падзяліў паміж імі маёмасць. Праз некалькі дзён малодшы сын забраў усё і ад'ехаў у далёкі край, і там растраціў сваю маёмасць, жывучы распусна. А калі ён аддаў усё, настаў вялікі голад у тым краі, і ён апынуўся ў нястачы. Тады пайшоў і наняўся да аднаго жыхара гэтага краю, а той паслаў яго на свае палі пасвіць свіней. Ён жадаў напоўніць жывот свой стручкамі, што елі свінні, але ніхто не даваў іх яму. Апамятаўшыся, ён сказаў: «Колькі наймітаў у бацькі майго маюць удосталь хлеба, а я гіну тут з голаду. Устану і пайду да бацькі майго, і скажу яму: Ойча, я зграшыў супраць неба і перад табою. Я ўжо не варты называцца тваім сынам. Прымі мяне як аднаго з наймітаў тваіх». І ён ўстаў, і пайшоў да свайго бацькі. А калі быў яшчэ далёка, убачыў яго бацька ягоны і зжаліўся. І, пабегшы, кінуўся яму на шыю, і пацалаваў яго. А сын сказаў яму: «Ойча, зграшыў я супраць неба і перад табою. Я ўжо не варты называцца тваім сынам». Бацька ж сказаў слугам сваім: «Прынясіце хутчэй найлепшую вопратку і апраніце яго, і дайце пярсцёнак на руку яго і сандалі на ногі. Прывядзіце адкормленае цяля і зарэжце. Будзем есці і весяліцца, бо гэты сын мой быў памерлы і ажыў, прапаў і знайшоўся». І пачалі весяліцца. [...]

## Раскрытыя абдымкі

*Бог праявіў міласэрнасць да грэшных людзей да такой ступені, што ў сваім Сыне, так глыбока, як гэта толькі магчыма, увайшоў у рэальнасць граху, нават атаясамліваючы сябе з грэшнікамі. Кожны, хто, як блудны сын, вырашае вярнуцца да Айца, заўсёды можа разлічваць на Яго міласэрнасць, на Яго раскрытыя абдымкі. Навярнуцца ніколі не позна, і ніякі грэх не з'яўляецца настолькі вялікім, каб рабіць немагчымым Божае прабачэнне. Грэшнік, які раскаяўся, атрымлівае дар новага пачатку, дзякуючы якому шлях, што ён прайшоў, вядзе да ўдзячнасці і праслаўлення Бога.*

*Пане Езу Хрысце, дапамажы мне заўсёды ўставаць і вяртацца да Цябе!*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ АРЦЫБІСКУПУ ЮЗАФУ СТАНЕЎСКАМУ**

*з нагоды імянін сардэчна жадаем моцнага здароўя і радасці на кожны дзень. Няхай святы заступнік штодзённа Вам спадарожнічае ў дарозе да святасці і да людскіх сэрцаў, усемагутны Бог ахінае сваім блаславеннем, а Найсвяцейшая Маці нястомна апекуецца, прытуляе да сябе і абараняе ад усякага зла.*

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ АРЦЫБІСКУПУ ЮЗАФУ СТАНЕЎСКАМУ**

*з нагоды імянін жадаем блаславення ад Езуса міласэрнага, апекі Маці Божай, добрага здароўя, нязгаснай надзеі ў цяжкасцях, а таксама найпрыгажэйшага плёну там, дзе Вы штодня пакідаеце сваё сэрца, свае думкі, свае сілы.*

*Апостальства "Маргарытка" парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Беняконях*

**ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ АРЦЫБІСКУПУ ЮЗАФУ СТАНЕЎСКАМУ**

*з нагоды імянін і дня нараджэння жадаем Божага блаславення на кожны дзень, а таксама сталай апекі Маці Божай і святога заступніка. Няхай Святы Дух шчодра адорвае Цябе сваімі цудоўнымі дарамі і ўзмацняе ў выкананні нялёгкай пастырскай паслугі.*

*Мама з сям'ёй*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЮЗАФУ ЗАНЕЎСКАМУ**

*з нагоды імянін складаем шчырыя віншаванні. Мы ўдзячны Пану Богу за тое, што Вы ў нас ёсць, што прыходзіце да нас і нясеце Божае слова, святло, надзею і радасць. Няхай здзейсняцца ўсе Вашы мары, а пачынанні будуць завершаны. Жадаем моцнага здароўя, шмат сіл і стойкасці ў душпастырскай паслузе. Няхай добры Бог і Найсвяцейшая Маці дапамагаюць Вам ва ўсім.*

*З павагай парафіяне касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Жупранах*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАНОНІКУ ВІКТАРУ СУБЕЛЮ**

*з нагоды 25-ай гадавіны святарскага пасвячэння, дня нараджэння і імянін складаем букет шчырых пажаданняў. Няхай добры Бог памножыць Вашу веру і блаславіць, Святы Дух шчодра адорыць мудрасцю, Маці Божая ахіне няспынай апекай і мацярынскай любоўю, а святы заступнік спадарожнічае ва ўсіх жыццёвых і святарскіх справах. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай, цярплівасцю і нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Яму і людзям, а кожны дар, які атрымліваеце ад Пана, будзе моцнай падтрымкай на жыццёвым і святарскім шляху.*

*Касцёльны камітэт і парафіяне касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Трабах*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЗБІГНЕВУ ДРАГУЛУ**

*з нагоды імянін жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень жыцця. Няхай здароўе будзе моцным, спакой заўсёды жыве ў сэрцы, радасць не пакідае, а моц не слабее. Няхай святы заступнік нястомна чувае над Вамі, а Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае плашчом мацярынскай любові.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Старых Васілішкаў*

**ПАВАЖАНЫ КСЁНДЗ ПРОБАШЧ АЛЯКСАНДР СЕВАСЦЬЯНОВІЧ!**

*З нагоды Вашага дня нараджэння мы дзякуем Пану Богу за тое, што маем такога пробашча. Вы да кожнага даходзіце з разуменнем і падтрымкай, а таксама з пасланнем Евангелля, на ўласным прыкладзе паказваеце нам, як любіць усіх людзей аднолькава, з вялікай руплівасцю і любоўю клапоціцеся пра цяпло і ўтульнасць у Божым доме. Вы чалавек радасці і нясеце нам не толькі радасць, але і надзею, што дапамагае ўвасабляць Божую волю і змяняць сваё жыццё. Мы бясконца ўдзячны Вашым бацькам і молімся за іх: аб здароўі і сілах для мамы Генуэфы, а для бацькі – аб вечным супакоі ў небе. Молімся таксама аб святасці для Вас. Просім, каб Бог адарыў Вас моцным здароўем, сілай, мудрасцю і цярплівасцю, каб рэалізаваць усе задумы адносна касцёла. Няхай Маці Божая абдымае Вас і ахінае цяплом мацярынскага сэрца!*

*Любячыя парафіяне касцёла св. Мікалая ў Міры*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ РУДЗЕВІЧУ**

*з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, душэўнага супакою, шмат сіл для абвяшчэння Божай праўды, стойкасці ў пакліканні, Божага блаславення і нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень душпастырскай паслугі.*

*Мама, брат Дзмітрый і брат Генрых з сям'ёй*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІКТАРУ ХАНЬКО**

*з нагоды дня нараджэння хочам перадаць самыя сардэчныя пажаданні: доўгіх гадоў жыцця ў здароўі, сіл на кожны дзень душпастырскай паслугі, радасці, поспехаў ва ўсіх справах, а таксама зычлівых людзей навокал. Няхай добры Бог адорвае Вас сваімі ласкамі, а Панна Марыя ахінае плашчом мацярынскай апекі.*

*Удзячныя парафіяне з Мастоў*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАНОНІКУ ЮЗАФУ БАГДЗЕВІЧУ**

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, радасці, нястомных сіл для служэння Пану, сталай апекі Маці Божай і святога заступніка. Няхай кожны дзень Вашага жыцця будзе асветлены праменямі Божай міласэрнасці. Шчыра дзякуем за чулае сэрца, ахвярную працу, прыгожую малітву і зычлівасць.*

*Удзячныя парафіяне касцёла свсв. Космы і Дам'яна ў Астраўцы*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ РУДЗЕВІЧУ**

*з нагоды дня нараджэння перасылаем мноства шчырых і сардэчных пажаданняў: моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, поспехаў, натхнення, мноства радасных хвілін і нязгаснай энергіі ў служэнні Богу і людзям. Няхай Езус блаславляе кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух шчодра адорвае мудрасцю і дапамагае годна выконваць святарскую паслугу. Дзякуем за добрыя словы, уважлівасць і чуласць!*

*З павагай і ўдзячнасцю парафіяне касцёла св. Міхала Арханёла ў Луконіцы*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ АЛЯКСАНДРУ РУДЗЕВІЧУ**

*з нагоды дня нараджэння жадаем патрэбных Божых ласкаў на кожны дзень. Няхай Ваша жыццё будзе шчаслівым і блаславёным, побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі, а ў сэрцы жыве радасць, дабрыня, любоў і надзея. Няхай здароўе спрыяе, моц ніколі не пакідае, Езус Хрыстус падтрымлівае ў кожнай справе, а святы заступнік заўсёды чувае над Вамі.*

*Удзячныя парафіяне з в. Старое Сяло*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**каталіцкая газета Віцебскай дыяцэзіі**

Духоўнае вымярэнне чалавека – несмяротная душа, розум і вольная воля – чыніць яго вобразам і падабенствам Бога. Аднак чалавек – гэта яшчэ і цела. Таму яму неабходна заспакойваць і матэрыяльныя патрэбы. Касцёл навучае, што імкненне да дабрабыту з'яўляецца натуральным правам чалавека, а валоданне маёмасцю – неабходнай умовай для яго годнага жыцця.

Пытанне прыватнай уласнасці настолькі важнае, што Бог даў нам асобную запаведзь – "не крадзі". Валоданне дабротамі адпавядае чалавечай натуры і годнасці. Сацыяльнае вучэнне Каталіцкага Касцёла бароніць прыватную ўласнасць як штосьці неабходнае для жыцця і аўтаноміі чалавека. Права на валоданне прыватнай уласнасцю – рэчамі, грашыма, нерухомасцю, інтэлектуальнай маёмасцю – вынікае наўпрост з права чалавека на жыццё, з таго, што ён з'яўляецца асобай, разумнай і вольнай.




**каталіцкі рэлігійны часопіс**

Пост, міласціна, малітва – тры ўмовы перажывання Вялікага посту.

На жаль, значэнне слова "пост" стала менш зразумелым у наш час. Пасціць – азначае "адмовіцца ад дабра дзеля чагосьці большага". Да прыкладу, малады чалавек адмаўляецца ад футбольнага матча дзеля спаткання з каханай. Яна ж адмаўляецца ад ежы, каб мець асіную талію.

У сваю чаргу міласціна – гэта не толькі кінуць капейкі жабраку. Гэта мудрая дапамога грашыма, гэта час, прысвечаны іншай асобе, гэта чын любові, добры ўчынак, выкананы ў імя любові да Бога і бліжняга.

Усё, што даецца вельмі цяжка: рашэнні, пост, унутранае змаганне – усё гэта павінна давесці да сустрэчы з Езусам Хрыстом. І няхай цялесная аскеза, аднаўленню чуйнасці на патрэбы іншага чалавека, паглыбленню любові да Бога і бліжняга і пакаянню спадарожнічае малітва.




**беларуская рэдакцыя**

8 сакавіка кардынал Конрад Краеўскі прыбыў ва Украіну са спецыяльнай місіяй. Мэта яго візіту – засведчыць асабістую блізкасць Папы да ўкраінскага народа.

Варта адзначыць, што візіт, які Францішак папрасіў здзейсніць кардынала Краеўскага, павінен працягвацца столькі, колькі неабходна будзе падтрымліваць украінскі народ ад імя Святога Пасаду ў гэтыя драматычныя дні яго гісторыі. "Папа хоча прысутнічаць праз свайго асабістага пасланніка. І гэта мэта яго візіту", – патлумачыў кіраўнік Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы.

Перад прыездам ва Украіну элемазінарый наведаў усе буйныя памежныя пераходы з польскага боку, дзе меў магчымасць сустрэцца і паразмаўляць з украінскімі бежанцамі. Ён падкрэсліў, што на тэрыторыі краіны хацеў бы наведаць цэнтры сацыяльнай дапамогі і сустрэцца з ахвярамі вайны.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

У гродзенскім касцёле Маці Божай Анёльскай адбыўся велікапосны дзень засяроджання Францішканскага ордэна свецкіх. На сустрэчы сабралася каля 60-ці мужчын і жанчын з розных куткоў Беларусі, якія вядуць францішканскае духоўнае жыццё.

Цэнтральнай падзеяй была св. Імша, на якой адбылося прыняцце новых членаў у Францішканскі ордэн свецкіх.

Члены гэтага свецкага ордэна на ўзор св. Францішка, свайго заснавальніка і брата, стараюцца несці людзям радасць і надзею ў кожны час і ў кожным месцы, а іх стылю жыцця ўласціва палымяная малітва – як асабістая, так і супольная, а таксама бескарыслівыя ўчынкі міласэрнасці для бедных і патрабуючых.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ААТ "Брэсцкая друкарня"**, 224013 Брэст, праспл. Машэрава, 75; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.